НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС * ІНТЭРФАКС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

## *Пульс дня*

### На границе тучи ходят хмуро

**Обстановка на таджикско-афганской границе остается напряженной, на отдельных ее направлениях не прекращаются мелкие вооруженные провокации.**

Как сообщили в пресс-центре штаба российских погранвойск в Тажикистане, на участке 5-й заставы хорогского погранотряда один из пограничных нарядов был дважды обстрелян из крупнокалиберных орудий с территории Афганистана. Ответный огонь не открывался.

### Бывшие депутаты будут лишены московской прописки

**Бывшие народные депутаты, остававшиеся в "Белом доме" до его штурма и пожелавшие не называть своих фамилий, сообщили корреспонденту ИТАР—ТАСС о том, что начальник паспортного управления ГУВД Москвы распорядился досрочно лишить их временной московской прописки.**

Начальники паспортных столов тех районов города, в которых проживают эти бывшие народные депутаты, выпишут их на то место жительства, откуда они приехали в Москву. В случае отказа добровольной выписки она будет осуществлена без предъявления бывшими народными депутатами паспортов.

### Проблема Красного Креста в западной Грузии

**Международный комитет Красного Креста (МККК) из-за усилившейся опасности для его представителей приостановил свою деятельность в Мингрелии (западная Грузия).**

Это решение, отмечается в коммюнике женевской штаб-квартиры МККК, принято после произошедшего в ночь с 26 на 27 октября инцидента в Зугдиди. Три машины с эмблемой Красного Креста были задержаны вооруженными людьми, а сопровождавшие их сотрудники гуманитарной организации подвергнуты допросу.

### Убитых и раненых нет. И слава Богу

**Обстрелу из артиллерийских орудий, минометов и стрелкового оружия подвергались неоднократно российские военные посты за последние три дня в западной Грузии в районе городов Сенаки и Абаши.**

Российские военные продолжают охрану железнодорожных и автомобильных магистралей в условиях противоборства правительственных и оппозиционных сил, сообщили в штабе группы российских войск в Закавказье. В составе российских бронегрупп нет убитых и раненых.

## Кандыдатура Беларусі ў Савет Бяспекі, на жаль, не прайшла

**На 48-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН адбыліся выбары пяці непастаянных членаў Савета Бяспекі.**

Ад групы ўсходнеславянскіх дзяржаў на адно месца ў СБ прэтэндавалі дзве дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і Чэшская Рэспубліка.

Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў Беларусі, для вызначэння адной кандыдатуры запатрабавалася два туры тайнага галасавання. Паводле вынікаў першага тура ні адзін з прэтэндэнтаў не набраў дастатковай колькасці галасоў: за Чэхію прагаласавалі 113, за Беларусь — 62 дзяржавы.

Па рэзультатах другога тура прайшла кандыдатура Чэхіі. У выніку новымі непастаяннымі членамі Савета Бяспекі ААН на двухгадовы перыяд сталі Аргенціна, Нігерыя, Аман, Руанда, Чэшская Рэспубліка.

## *Строки из Москвы*

## Храм возрожден

**Сегодня на Красной площади зазвонил колокол вновь отстроенного Казанского собора, разрушенного 60 лет назад по приказу кремлевских вождей.**

Всего два года потребовалось строителям, чтобы по случайно уцелевшим чертежам восстановить древний православный храм.

Столичные власти не только выделили церкви почти миллиард рублей, но и возвратили разграбленные коммунистами ценности, в том числе часть икон из музеев Москвы и Санкт-Петербурга.

Правда, до полного восстановления внутренних росписей, реставрации иконостаса еще далеко, однако храм уже начнет действовать: здесь будут проходить богослужения, проводиться обряды.

В освящении возрожденного золотоглавого собора принял участие патриарх Московский и всея Руси Алексий II.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

## Слава — рэч нетрывалая. Як воск

Медалі і ганаровыя дыпломы ў наш час каціруюцца не вельмі высока. Сапраўдную славу прыносіць... скульптура з воску. Калі дзяржаўны дзеяч у канцы сваёй кар'еры ўдастойваецца гонару апынуцца ў цэнтральнай зале музея мадам Цюсо, заснаванага 223 гады назад у Парыжы і перанесенага потым у Лондан, тады два мільёны наведвальнікаў кожны год будуць, гледзячы ў яго акрылавыя вочы, гадаць, хто гэта такі і што ён робіць побач з такімі славутасцямі, як, скажам, Арнольд Шварцэнегер.

Прэстыжнасць установы мадам Цюсо і сумны лёс, які чакае экспанаты, якія "губляюць сваю актуальнасць" (ім адсякаюць васковую галаву і накіроўваюць яе на "звалку гісторыі", на далёкую паліцу, а тулава і зусім выкідаюць), азначаюць, што вырашыць, чыю фігуру паставіць, а каго ўбраць — справа вельмі адказная. Прадстаўнікі музея сцвярджаюць, што іх рашэнні ў такіх выпадках заснаваны на "відавочных" фактах. Але гэта, напэўна, не заўсёды так.

Ну чаму, скажыце, былы прэм'ер-міністр Ірландыі Гэрэт Фітцджэральд да гэтага часу ўсміхаецца наведвальнікам са сваёй нішы ў Гранд-холе, у той час як ад васковай фігуры Мао Цзэдуна засталася адна галава, якая пыліцца на верхняй паліцы часовай экспазіцыі "200 гадоў мадам Цюсо"? У кампаніі з ім іншыя аўтарытарныя правіцелі — такія, як Хайле Селасіе, Хо Шы Мін, Мікіта Хрушчоў. Тут жа ўладкавалі былога брытанскага міністра фінансаў Джэфры Хау, які выглядае яўна незадаволеным з-за суседства з імі.

Лягчэй зразумець логіку рашэнняў адносна новых экспанатаў. Яны прымаюцца кожны месяц камітэтам з шасці чалавек. У першую чаргу разглядаюцца кандыдаты, якія набылі шырокую вядомасць і маюць шанц застацца ў цэнтры ўвагі хаця б некаторы час. Бо выраб васковай скульптуры займае паўгода і абыходзіцца ў 20—30 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Бывае, даводзіцца ў ходзе работы прыслухоўвацца да думкі ўрада. Паводле аўтарытэтнага лонданскага часопіса "Эканаміст", у мінулым годзе, калі музей мадам Цюсо вырашыў вырабіць васковую выяву Садама Хусейна, Форын Офіс адгаварыў пасылаць скульптара ў Багдад для работы з натуры і параіў задаволіцца фатаграфіямі.

Некаторыя краіны дастаўляюць музею асабліва шмат клопатаў. Напрыклад, каб не адстаць ад падзей, работу над васковымі фігурамі новых амерыканскіх прэзідэнтаў даводзіцца пачынаць загадзя, яшчэ да выбараў і тут галоўнае ўгадаць, хто пераможа. Да гонару вядомага музея, чатыры апошнія разы ён не памыляўся ў прагнозах. На рэдкасць разборлівыя афрыканскія кіраўнікі — то нос скульптуры ім не падабаецца, то адзенне просяць замяніць.

Але больш за ўсё ў музея мадам Цюсо праблем з Італіяй. Пасля Мусаліні (яго фігура з'явілася ў 1928 годзе і знікла ў 1953 г.) музей доўга адмаўляўся экспанаваць італьянскіх палітыкаў, паколькі ўрады краіны занадта хутка мяняліся. У 1986 годзе музей вырашыў рызыкнуць з Бецінa Краксі, сацыялістам, які заставаўся на чале ўрада рэкордна доўгі для Італіі тэрмін — два з палавінай гады. Але за дзень да афіцыйнага адкрыцця скульптурнай выявы Б.Краксі яго ўрад паў. Праўда, васковая фігура лідэра італьянскіх сацыялістаў усё ж з'явілася ў музеі, калі ён змог зноў сфарміраваць кабінет міністраў. Некалькі месяцаў назад яе ўбралі (як належыць, абязгалавіўшы). Гэта адбылося ў самы разгар скандала, звязанага з карупцыяй у калідорах улады Італіі, калі ў самога Краксі ўзніклі праблемы з судовымі ўладамі. У музеі Цюсо сцвярджаюць, што гэта проста супадзенне. Магчыма, у ім ёсць свая сімволіка.

З расійскіх дзеячаў у Гранд-холе экспануюцца васковыя фігуры прэзідэнта Барыса Ельцына і Міхаіла Гарбачова. І не першы дзесятак гадоў у поўны рост стаіць у Гранд-холе У.І.Ленін.

**Наталля КІРСАНАВА.**

*Лондан.*

## Китай: весна науки

**В основе достижений Китая — забота о развитии науки. Более десяти лет назад Дэн Сяопин подчеркнул, что наука и техника — главные производительные силы. С той поры и началась "весна науки".**

Сейчас в КНР более 8,7 миллиона научно-технических работников, или вдвое больше, чем было в начале "весны науки". За последние 10 лет страна 15 раз участвовала в международных ярмарках, выставках, на которых отмечено 300 единиц высококлассной техники. В 1986 году под руководством компетентной комиссии был разработан государственный план по исследованию и развитию новейшей техники в семи главных областях: биологии, астронавтики, информации, автоматизации, лазерной техники, энергии и новых материалов. Этот план включает 1500 тем научных исследований. Хорошие результаты уже получены в Пекине. Здесь создан экспериментальный район высшей техники. По намеченному плану за три года откроется 500 предприятий новейшей техники.

**Иван СЕРГЕЕВ.**

## Паліцэйскія не вытрымліваюць стрэсаў

**Для асоб, якія паступаюць на службу ў паўднёваафрыканскую паліцыю, уведзены тэсты. Праверка заклікана, у прыватнасці, выяўляць такія ўласцівасці псіхікі, як агрэсіўнасць і схільнасць да самазабойства.**

У мінулым годзе больш як семсот паліцэйскіх ПАР былі прызнаны медыцынскімі камісіямі непрыгоднымі для далейшага праходжання службы з-за псіхічных расстройстваў, выкліканых стрэсамі. Спецыялісты чакаюць, што ў гэтым годзе колькасць камісаваных па гэтай жа прычыне будзе яшчэ вышэй. 110 вартаўнікоў парадку пакончылі з сабой у мінулым годзе. З іх амаль палову склалі асобы з чорным колерам скуры, якія ў сваіх абшчынах падвяргаюцца нападзенням. Узровень самазабойстваў сярод паліцэйскіх у 22 разы вышэй, чым у сярэднім па краіне.

Маёр Пітэр Куартзен, кіраўнік службы псіхалагічнай падтрымкі, створанай у паліцыі ПАР два гады назад, гаворыць, што сярод супрацоўнікаў сіл правапарадку атрымалі распаўсюджанне дэпрэсіі і стан пастаяннай трывогі. Адбіваецца, што яны пастаянна бачаць жорсткія забойствы, у тым ліку саслужыўцаў. Паліцэйскія губляюць арыентацыю: за адно і тое ж іх праклінаюць і хваляць — у залежнасці ад палітычных поглядаў і меркаванняў. Асабістая будучыня і дабрабыт уяўляюцца людзям гэтай прафесіі вельмі туманна.

## Спас от смерти... лишний вес

**На спасение Стивена Фрэнсиса не было никакой надежды. Когда австралийские патрульные береговые службы начали поиски пропавшего вертолета, с момента аварии прошло уже пять часов.**

В холодной воде, в районе обитания множества акул шансов уцелеть практически не было. И все же спустя семь часов после того, как вертолет потерял управление и упал в море в 200 км к северо-западу от Аделаиды, Фрэнсису удалось выползти на берег, обессиленному, но живому. Пилот вертолета до суши добраться не сумел.

"Я старался не предаваться панике и экономил силы, плывя то брассом, то на спине, — рассказал, придя в себя, Стивен. — Об акулах старался не думать". Самые тяжелые были последние четыре часа, когда пришлось плыть в темноте. Стивен, которому исполнилось 39 лет, считает, что лишний вес, в другое время мешавший ему и даже вызывавший беспокойство, помог удержаться на воде и не дал замерзнуть.

## Палата № 6. Калифорнийский вариант

**... Один пациент потихоньку откусывает по кусочкам свой собственный язык. Боли не чувствует — он уже давно в наркотическом дурмане.**

... Рядом с ним — насмерть напуганная молодая шизофреничка, которая совершила попытку самоубийства после того, как ее бросил дружок-наркоман.

... В этой же компании и 90-летний старик с явными признаками старческого слабоумия, которое вытолкнуло его погулять по улицам Сан-Франциско и заставило сквернословить по-сицилийски.

Где они?

Добро пожаловать, как говорится, в специальное психиатрическое отделение неотложной помощи городской больницы Сан-Франциско. Но только на одну ночь. Пребывание на койке отделения стоит 600 с лишним долларов за ночь. А все попадающие сюда "пациенты", или, как их называют там, "клиенты", не имеют за душой ни цента.

Поставляют их сюда полицейские Сан-Франциско, отлавливая свободно разгуливающих на улицах психически больных, которые представляют явную угрозу для прохожих да и для самих себя. За ночь "клиентов" накачивают депрессантами до такой степени, что к началу следующего дня их можно вышвырнуть на улицу и готовиться к приему новой партии. По образному выражению газеты "Сан-Франциско икзэминер", психиатрическое отделение городской больницы превратилось в "позолоченную вращающуюся дверь, приводящую психов в подобие приемлемого состояния и тут же выбрасывающую их на улицу".

Но этой "вращающейся двери" совершенно недостаточно, и полиции приходится избыток несчастных пропускать через вращающиеся двери и также переполненной городской тюрьмы Сан-Франциско.

Истоки такого позорного не только для Америки, но и для всего мира, положения с душевнобольными в Калифорнии имеют 20-летнюю давность. Тогда в период губернаторства Рейгана в целях экономии бюджета было принято решение ликвидировать в Калифорнии специальные психиатрические больницы, не предусмотрев ничего взамен. В итоге в штате число больничных коек для психически больных сократилось с 55 тысяч до четырех тысяч. Что касается Сан-Франциско, то его больница имеет всего 100 мест, и заполнены они в основном тяжелобольными, у которых, естественно, есть средства заплатить за эту привилегию.

И сегодня приезжающие в Сан-Франциско американские и иностранные туристы (постоянные жители, наверное, привыкли к этому) с ужасом шарахаются от попадающихся чуть ли не на каждом углу психически ненормальных приставал и попрошаек и с отвращением взирают на то, как в самом центре города прямо на улице они справляют свою естественную нужду.

**Геннадий ШИШКИН.**

*Сан-Франциско.*

## *Погляд з Германіі*

**Іван МАКАЛОВІЧ,**
**дырэктар праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў**

**Вельмі важна паглядзець на сябе збоку. З адлегласці. І пажадана чужымі вачыма.**

**Такім чынам, погляд з Германіі.**

### 1. Ахвяры Берлінскай сцяны

З кім загаворыш — амаль усе аб праблемах усходняй Германіі. І адно сцвярджэнне: сацыялізм у ГДР — нібы які смерч: разбурыў тут усё.

Усходні Берлін у многіх месцах перакапаны: рамантуюцца дарогі, тратуары, каналізацыя...

— А што рабіць з дамамі? — разважае ўслых спецыяліст вядомай фірмы, які суправаджаў нас па горадзе. — Ні архітэктуры, ні якасці. Яны аднолькавыя — што ў Маскве, што ў Мінску, што ў Берліне...

Яно сапраўды так. Тыя ж панельныя шматпавярхоўкі, з многіх будынкаў адвалілася тынкоўка.

Спецыяліст тым часам працягвае:

— Яны не прыдатныя для жыцця. Трэба мяняць электраправодку, сантэхабсталяванне, паляпшаць гукаізаляцыю, вонкавы выгляд.

Нам бы іхнія праблемы. Вось, бадай, адзінае, пра што думаеш, слухаючы такое.

Берлінская сцяна, пабудаваная ў 1961 годзе, павінна была адгарадзіць усходнюю частку горада ад заходняй, каб грамадзяне ГДР не бачылі, як жывуць там. Каля 600 чалавек, якія спрабавалі пераадолець мяжу з Заходняй Германіяй, загінулі ці пакалечаны. Гэтым ахвярам устаноўлены помнік на адной з магістралей Берліна.

Думаецца, што падобная сцяна праходзіла не толькі ў гэтым горадзе. Нешта падобнае будавалі на нашым тэлебачанні, у друку, у нашых душах. Нам гадамі хлусілі, што ўсё дрэннае там, а добрае — у нас. І таму мы ўсе ахвяры той сцяны — і дысідэнты, якіх высылалі з краіны альбо адпраўлялі ў турмы, псіхушкі, і простыя грамадзяне, якіх прымусілі паверыць, нібыта ўлады турбаваліся пра народ.

### 2. "Дай Бог слепцам глаза вернуть"

Паслухаеш якую даярку па нашым тэлевізары... Яе не хвалюе, што ў краме няма хлеба, што нельга з'ездзіць у райцэнтр па лекі, бо не ходзіць аўтобус...

Адно наўме — як пазбавіць Беларусь незалежнасці, зноў стварыць саюз. Альбо паслухаеш групку дэпутатаў, якая кінулася да Хасбулатава, каб зноў жа ратаваць былы Саюз... і становіцца горка і страшна ад адной думкі: як жа скалечылі нашы душы, што ў многіх ужо няма звычайнай разважлівасці.

Вось таксама "скалечылі" і прамысловасць былога СССР. Вялізныя сродкі ішлі на вытворчасць ракет, танкаў, гармат, патронаў... З гэтай мэтай набудавалі шмат заводаў. Што з імі рабіць цяпер? Закрыць? Рабочых за прахадныя? А ў іх жа сем'і, дзеці. Вядома, неабходна пераабсталяваць такія прадпрыемствы на выпуск мірнай прадукцыі. Але як гэта зрабіць?

Германія амаль першая пайшла такім шляхам, набыла пэўны вопыт. Для яго вывучэння, абмену думкамі выязджала туды група экспертаў Беларусі. Сярод іх — намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па эканоміцы Уладзімір Кандраценка, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па прамысловасці Мікалай Бохан, другі сакратар аддзела Міністэрства замежных спраў Іван Найдовіч, старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадзе, дырэктары заводаў: Мінскага электрамеханічнага — Павел Ліневіч, Жыткавіцкага маторабудаўнічага — Уладзімір Воранаў, дырэктар Беларускага вытворчага аб'яднання радыётэхнікі Мікалай Ярохаў, шэраг спецыялістаў Міністэрства абароны і аўтар гэтых радкоў. З нямецкага боку ў семінары па канверсіі ўдзельнічалі вядомыя эканамісты, банкіры, бургамістры, спецыялісты вядомай фірмы "Бук".

Зазначу, што такую сустрэчу наладзілі Брандэнбургская арганізацыя "Пра Еўропа" і Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

Дык што ж такое канверсія, і як яна ідзе ў Германіі? Аб гэтым у наступным нумары.

## Асцярожна, блізняты!

**Да трохгадовых малайзійскіх блізнятаў Маамаду і Шарылу баяцца датыкацца не толькі сябры, але і бацькі.**

Справа ў тым, што дзеці валодаюць такім зарадам электрычнасці, што той, хто да іх дакранецца, атрымлівае адчувальны ўдар току. "У мяне было такое адчуванне, быццам бы я дакранулася да аголенага электрычнага провада", — успамінае пра першы такі выпадак маці блізнятаў, 24-гадовая Залэа Абу Бакар.

Дзіўныя ўласцівасці сваіх сыноў яна ўпершыню выявіла ў той момант, калі спрабавала памяняць на іх вільготнае ад поту адзенне. „Кожны раз, калі мае дзеці пацеюць ад гульняў ці катання на веласіпедзе, я адчуваю моцны электрычны разрад", — гаворыць маладая жанчына. Усе сваякі і сябры адчуваюць тое ж самае, калі дзеці датыкаюцца да іх.

Урач з цэнтральнай бальніцы ў Трэнгану Джымі Лі, які агледзеў блізнятаў, не выявіў у іх ніякіх фізічных адхіленняў. На яго думку, дзеці, відаць, назапашваюць залішнюю статыстычную электрычнасць ад доўгага датыкання да металічных прадметаў, як, напрыклад, веласіпед. Гэты разрад потым перадаецца пры кантакце іншым. "Часам я чую, як у час гульняў у Маамада і Шарыла ўнутры нешта патрэсквае, быццам бы адбываецца кароткае замыканне", — гаворыць Залэа Абу Бакар.

Цікава, што блізняты не адчуваюць ніякага дыскамфорту ад назапашвання ў сабе электрычнасці. А вось іх бацькам ад тлумачэнняў урача не лягчэй. Яны не могуць забараніць дзецям гуляць і як вынік прадаўжаюць рэгулярна атрымліваць удары токам.

## *Внимание: конкурс!*

## Дерзайте, зодчие!

Швейцарский предприниматель Бруно Эглоф очень хочет, чтобы у белорусских детей, пострадавших от аварии на ЧАЭС, был свой красивый санаторий. Чтобы здравница имела бассейн, лечебно-оздоровительный блок, корпуса для занятий, игр и отдыха. С этой целью он решил объявить конкурс на лучший проект санатория, который будет расположен в живописной лесной зоне. Премия в долларах будет выплачена автору-победителю самим Бруно Эглофом.

Архитекторов просят обращаться в комитет "Дети Чернобыля". Тел. 521-117.

**Тамара КОРОЛЬ.**

## *Актуально*

## Министерство транспорта и коммуникаций Республики Беларусь информирует

В соответствии с соглашением между правительством Республики Беларусь и Украины и согласно протоколам переговоров между делегациями министерств транспорта Республики Беларусь, Украины и Молдовы введена в действие система разрешений на проезд грузового автотранспорта по территории Украины и Молдовы с 15.10.93 г.

Разрешения будут оформляться концерном "Белмагистральавтотранс" на погранпереходах "Селище", "Кравцовка", "Новая Рудня", "Мокраны" и в городе Минске по адресу: ул. Серова, 4.

Обязательным условием для получения разрешений является наличие лицензионной карточки транспортного средства на право осуществления международных перевозок, выданной Министерством транспорта и коммуникаций Республики Беларусь.

Оплата за каждое разрешение республик Украины и Молдовы производится в СКВ.

При отсутствии валютных средств временно, до особого распоряжения, допускается вносить плату в белорусских расчетных билетах по курсу белорусского Национального банка на день приобретения разрешения.

Допускается оплата за разрешения по безналичному расчету на условиях предоплаты на расчетные счета концерна "Белмагистральавтотранс":

рублевый: 606709 в ГУАК Бел. ПСБ г.Минска, МФО 153001334,

валютный: 062070388 Внешэкономбанк г.Минска, МФО 153001226.

Контактные телефоны в Минске: 78-03-43, 77-19-15.

# СВЕТ В ОКНЕ

ВЫПУСК 21 (67)

## *Незабыўнае*

## Выпадак з партрэтам маршала Блюхера

**Міхась ЯКУШЭВІЧ**

Да вайны я вучыўся на рабфаку пры Беларускім сельскагаспадарчым інстытуце (цяпер БСГА).

7 лістапада 1938 года студэнты інстытута, рабфака і землеўпарадчага тэхнікума павінны былі — гэта ўжо стала традыцыяй — выйсці на дэманстрацыю з нагоды 21-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Перад выхадам на дэманстрацыю камендант нашага баракаінтэрната Фруза Гайдаманава ўручыла нам партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, транспаранты і другую нагляднасць, якая захоўвалася яшчэ з мінулых першамайскіх урачыстасцей.

І вось наша калона рушыла да інстытуцкага велатрэка, дзе звычайна праводзіліся ўсе ўрачыстасці.

Надвор'е было яўна не святочнае. З раніцы паваліў мокры снег, шугаў халодны пранізлівы вецер. Увагнуўшы галовы ў каўняры стракатых адзежын, студэнты неслі сваю нагляднасць не ў высока ўзнятых руках, а апусціўшы іх долу.

На пляцоўцы велатрэка калоны пачалі займаць свае месцы. Калі ж, нарэшце, усталяваўся парадак, перад нашай калонай з'явіўся маладзенькі лейтэнант. На ім быў новенькі шынель з бліскучымі гузікамі, да бляску начышчаныя хромавыя боты — усё гэта гаварыла аб тым, што лейтэнант, напэўна, учарашні выпускнік якой-небудзь школы НКУС.

— Узняць транспаранты! — звонкім голасам скамандаваў лейтэнант.

Угару ўзняліся сцягі, лозунгі, партрэты. Глянуўшы ўверх, лейтэнант ад нечаканасці разгубіўся, потым падскочыў да невысокага каржакаватага юнака ў абцягнутым сукном кажушку, ударыў яго кулаком па твары, злосна прагаварыў:

— Ты каго гэта, контра, прынёс?

Лейтэнант вырваў з рук юнака дрэўка з партрэтам маршала Блюхера, бразнуў яго на мокрую зямлю і прыняўся таптаць нагамі. Я стаяў непадалёку ад юнака. Гэта быў староста нашай групы Башлыкоў.

— Марш адсюль! — злосна пракрычаў лейтэнант.

З таго дня мы больш не бачылі свайго старасту. Бясследна знікла за ім і камендант, якая без усялякага злога намеру падсунула студэнту партрэт арыштаванага ўжо палкаводца. Але ж 7 лістапада 1938 года аб гэтым нічога не ведалі ні студэнты, ні выкладчыкі.

...Зусім нядаўна я прачытаў: маршал Блюхер быў растраляны роўна праз два дні пасля выпадку з яго партрэтам у Горках — 9 лістапада 1938 года...

## *Імгненне і вечнасць*



*Беларуская восень.*

**Фота Уладзіміра ГАЛУЗЫ.**

## *Зеленая лампа*

**Вольдемар АЛЕХНОВИЧ**

### Сердце

*Мое сердце надорвано*
*где-то —*
*По ночам снова ноет в груди,*
*Мое сердце — мотор*
*перегретый,*
*Остановится на полпути.*
*Вспоминаю слова твои, мама:*
*— Береги себя, сын, береги...*
*Только, мама,*
*твоими ль руками*
*Развести надо мною круги?*
*Из ночи меня вырвать,*
*из вьюги*
*И в тайгу с рюкзаком*
*не пустить! —*
*Оказались слабы твои руки,*
*И за это меня ты прости.*
*Нет, я жизнью ничуть*
*не обманут —*
*Я качаюсь в заветном*
*седле —*
*Я иду во главе каравана*
*По холодной и жаркой земле.*
*Вновь палит меня*
*южное солнце,*
*И пурга завывает во сне;*
*Если трудно*
*бывает —*
*так сердцу,*
*Только сердцу,*
*а вовсе не мне!..*

### Снова осень...

*Елене М.*

*Снова осень на Белой Руси,*
*Снова клином летят журавли,*
*Флоксы поздние отцвели —*
*Осень, осень на Белой Руси...*
*Вспоминаем минувший*
*апрель —*
*Синеокие вечера, —*
*Как звенела под*
*крышей капель*
*И березами пахли ветра.*
*Говорила ты мне: "Погляди,*
*Что за чудо-весна! Ну и синь!"*
*Только это прошло, позади —*
*Осень, осень на Белой Руси...*
*Одеваются ветки ледком*
*И впадают в глубокие сны...*
*А под желтым увядшим*
*листом*
*Зарождаются соки весны...*




Рисунок Олега ПОПОВА.

## *Имена и характеры*

### Дарья

Лидер в любом трудовом коллективе, в собственной семье.

Стремится всегда быть в поле зрения окружающих, подчиняя их своим желаниям и настроениям. Такова и в отношениях с мужчинами.

Семейное счастье целиком и полностью зависит от нее самой. Будет желание иметь крепкий очаг — он будет таким. Пустит все по воле волн — пеняй на себя.

Вспыльчивая, но отходчивая, влюбчивая, фантазерка, одновременно практична и рациональна.

В сексе — "ленивая кошка".

**Наталья БЕРЕЗОВСКАЯ.**

*(По материалам брошюры "Характер человека зависит от имени". — Санкт-Петербург, 1991 г. и книги "Личный магнетизм". — Москва, 1990 г.).*

Раздел ведет Андрей ЮДЧИЦ.

